Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Вільня, Субота, 5 ліпня 1919 г. № 37.

БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ

**гэтым абвяшчае,**

што у канцэлярыі Камітэта (*Вострамская № 9*),

робіцца рэгістрацыя безработных беларусаў, для якіх Камітэт склікае сход 8 ліпня (юля) для арганізацыі работніцкіх арцеляў, якім на днях можа быць дадзена праца.

*КАМІТЭТ.*

# КАРТА ЗАХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ.

З падпісаньнем немцамі міру можна сказаць, што ўвесь сьвет увайшоў у новую эпоху жыцьця, калі даўнейшыя стасункі, у якіх знайходзіліся народы паміж сабою, зьмяніліся на іншыя, і карта Эўропы (ды й ня толькі Эўропы) перакроілася на новы лад.

Як і трэба было чакаць, ня гледзячы на нямецкія пабеды ў першыя чатыры гады вайны, узяла верх Антанта, пакончыўшая з вайной адзіным моцным ударам. Ад гэтага удару, настолькі моцнага, што самы немцы не спадзяваліся, адразу зваліліся з ног Турцыя, Баўгарыя і Аўстрыя. Нямеччына, як самая мацнейшая, яшчэ некаторы час стаяла на нагах, ня хочучы здавацца на міласьць пабядзіцеляў, але бачучы, што выкруціцца з бяды ніяк ня можа, сашчаміўшы зубы, падпісала мір, каторы яе нізводзіць на палажэньне слабой дзяржавы.

Ад Нямеччыны аддзялілі кавалкі яе тэрыторыі. На захадзе—Францыя дастала Эльзас і Латарынгію, Бэльгія таксама забрала добры кавалак. На ўсходзе Чэхія, а больш усяго Польшча, забралі ад немцаў таксама вялікія кавалкі. Зарыцца на нішто сабе кавалачак і Літва. Данія зьбіраецца адабраць у немцаў Шлезвіг-Голштынію. Нямеччына згубіла ўсе свае калёніі, ўвесь свой ваенны і гандлёвы флёт, і нарэшце Нямеччына мае заплаціць Антанце вялізарную кантрыбуцыю. Але ўсё-ж Нямеччына, не памёрла і жыве, ня так, як Аўстрыя і Турцыя, каторыя, можна сказаць, саўсім згінулі. Толькі Баўгарыя, дзякуючы можа таму, што першаю адмовілася ад вайны з Антантай, утрымалася і толькі троху абшчыпана будзе румынамі, сэрбамі і грэкамі.

На руінах пабітых гасударстваў ужо паўсталі новыя гасударствы: польскае, чэскае, паўднёва-славянскае. Пашырыліся гасударствы: грэцкае, румынскае, італьянскае, францускае, бэльгійскае і дацкае

Прыглядаючыся да карты Заходняй Эўропы, мы бачым цяпер саўсім іншыя контуры граніц і саўсім іншыя навет гасударствы. Францыя і Бэльгія пашырыліся на ўсход і сталі вялікшымі. Італія таксама пашырылася на поўнач і на ўсход. Францыя і Італія сталі цяпер самымі магутнымі гасударствамі кантынэнтальнай Эўропы і будуць граць ў Эўрапэйскім «канцэрце» першую скрыпку. За імі ўсьлед ідуць Польшча, Румынія, Юга-Славія, Чэхія і Грэцыя—таксама вельмі дужыя гасударствы, але-ж слабейшыя ад першых.

Есьць яшчэ два гасударствы, каторыя паўсталі і зрабіліся незалежнымі, хоць і ваявалі процiў Антанты,—гэта—аўстрыйская Нямеччына і Вэнгрыя. Аўстрыйская Нямеччына хацела-б далучыцца да Нямеччыны кайзэра Вільгельма, але дзяржавы Антанты гэтага не дапусьцілі, і яна змушана быць аддзельным незалежным гасударствам, як і Вэнгрыя.

Такім чынам, мы бачым, што карта Заходняй Эўропы саўсім зьмянілася, галоўным чынам у кірунку абразаваньня этнаграфічных гасударстваў, тэрыторыі каторых да вайны ці цалкам уваходзілі ў склад Нямеччыны і Аўстрыі, а таксама Турцыі і Баўгарыі, ці часьцінамі.

Новыя гасударствы не валадаюць вялікімі тэрыторыямі, бо яны ня ўключаюць у сябе чужых зямель. Гэта ўсе народныя гасударствы, ў каторых, можа за вельмі малымі выключэньнямі, жыве толькі адзін даны народ.

Ня можам не падчыркнуць, што усе славянскія народы, якія прыгняталіся Аўстрыяй і Нямеччынай, сталі цяперь незалежнымі.

Славянства мае цяпер права сьвяткаваць вялікі мамэнт свайго адраджэньня. Трэба толькі пачакаць, каб і ўсходняя Эўропа, ў якой жывуць славянскія народы: украінскі, беларускі і велікарускі выйшлі кожны на пуцьну сваёй незалежнасьці і адбудавалі кожны паасобку свае незалежныя гасударствы.

Тады ўсе незалежныя славянскія народы зажывуць кожны дзеля свайго і агульнага славянскага шчасьця. Гэта будзе вялікае славянскае сьвята.

Нам астаецца яшчэ сказаць некалькі слоў аб Англіі. Англія—не контынэнтальная дзяржава. Яна стаіць як-бы збоку Эўропы, але цесна з ёю зьвязана. Пасьля вайны яе тэрыторыя засталася той-жа, як і да вайны, калі ня лічыць новых каленій, якія Англія адобрала ад Нямеччыны; «Карта» Эўропы гаворыць як-бы аб тым, што Англія нічога ня выйграла.

Тут мы і павінны сказаць, што моц і вага гасударстваў залежаць ня столькі ад іх вялікасьці, як ад таго, якія средствы ў іх ёсьць, каб прымусіць другіх лічыцца з сабой. І вось мы бачым, што Англія, пасьля вайны зрабілася гасударствам, у каторага ёсьць так многа гэтых срэдстваў, што з ёю ніхто раўняцца ня можа. Ваенны і гандлёвы флёт Англіі такі вялізарны калі раўняць з флётамі іншых дзяржаў, што Англіі няма чаго і каго баяцца, з ёю няма каму цяпер канкурыраваць, хіба толькі Амэрыцы і Японіі, каторыя ад Эўропы вельмі далёка. Такім чынам, у рэзультаце вайны, ў Зах. Эўропе, можна сказаць, ўсё зьмянілася. Ад былых вялікіх дзяржаў асталіся толькі Францыя і Італія. Паўстал

# Беларусь.

### „Зялёная Армія“.

Бальшавіцкія „Известия“ за 17 чэрвеня пішуць, што ў Аршанскім (Магілеўск. губ.) і бліжэйшых лясных паветах хаваюцца *астаткі* „Зялёнай Арміі“.

Прадстаўнік ген. Денікіна у Варшаве кажа аб „зяленых“ так: „Зялёная армія складаецца з дэзэртыраў чырвонай і хаваецца пад цянькам зялёных лясоў, аткуль і дастала свой назоў. А дзеля таго што з чырвонай арміі паўцякалі цэлыя часткі,—у зялёнай ёсьць аружжа, да артылерыі уключна. Відаць, ёсьць ў яе і камандны склад“.

**М. Круглае**, Магілеўскай губ.

У ісполкоме працуюць людзі на катораых наракаець уся вёска. Напрыклад, гэткі выпадак: старшыня ісполкома адпрагаё ў полі коні, ня кажучы каму і нашто гэта патрэбна: „Гэта мая справа... Што хачу, то й раблю... Не размаўляць! . . .“ П'янства ідзе страшэннае. З м. Круглага езьдзяць па вёсках якія-сь чырвонаармейцы, каторыя наводзяць на жыхароў паніку стральбой угару і загадам даць ім самагонкі.

**Тэшадовичская вол.**, Слуцкага пав.

Ува ўсіх валасьцёх павету былі разасланы абвесткі, што на 18 мая назначаецца сход беднаты, каб зарганізаваць Саюз Беднаты. На гэты кліч пазьбіраліся бедныя жыхары з усіх вёсак, увесь дзень сядзелі ў валасьці, але сходу ніякага не дачакаліся.

**Вялікадонецкая вол.**, Барысаўскага пав.

Можна заўважыць масавыя хваробы тыфам і воспай, але ніякае мэдыцынскае помачы і мэдыкамэнтаў няма; ёсьць толькі адзін фельчар, каторы цяпер сам хварэе на тыф. Акушэрка, мала спрактыкаваная, ня можа даць патрэбнае помачы.

### Сёлетні ураджай.

Сёлетні ураджай прадстаўляецца вельмі памысна. Пагода, якая стаяла дагэтуль, вельмі добра ўплывае на ярыну і сенажаці. Жыта пекнае, пшаніца—мясцамі. Выказваюцца погляды, што за час ад пачатку вайны сёлета прадвідзіцца ураджай найлепшы. Шкода толькі, што так многа палёў ляжыць адлогам. Меймо надзею, і гэтыя недасевы марнуюцца ужо апошні год.

### Міцкуны.

Ужо некалькі тыдняў, як узновіла істнаваньне, мясцовая валасная управа. Старшыня і выбарныя людзі—мясцовыя. Найважнейшай задачэй для новае адміністрацыі ёсьць помач галадаючаму сялянству. З гэтым заданьням выбарныя спраўляюцца досыць спраўна. Анагдай прывязьлі чыгункай новы харчавы транспарт, бульбы і ячменю. Падзел харчоў даручан асобам, маючым у гэтым дзеле практыку і агульную веру.

### На чыгунцы.

Не зважаючы на тое, што фронт ваенны аддаліўся ад Вільні на больш за сотні вёрст, праезд па чыгунцы і дагэтуль вельмі утруднены. Калі-ж каму і суджана скарыстаць з чыгункі, то толькі не бяднейшым сялянам бо... гэта ім зусім не па кішані. З гэтае прычыны цэлыя гасьцінцы перапоўнены няшчаснымі пешаходамі з іхнімі цяжкімі харчавымі ношамі. І гэтым бедным прыходзіцца так валачыся дзесяткі, а часам і сотню вёрст падчас, калі па чыгунцы вазіняюцца парожныя вагоны. Адзін пропуск, калі яшчэ с фатаграфіей, каштуе каля 12 руб. А яшчэ білет.

Належныя ўласьці павінны на гэта зьвярнуць увагу і паруліцца такую ненармальнасьць найхутчэй паправіць.

### Панямецку.

*Новая Вялейка.*—Анагдай на Віленскай вуліцы публіка была зьдзіўлена зьдзекам паліцэйскага жандара над уладзельцам, як відаць, незамэльдаванага ровэра (веласіпеда). Прывёўшы вуліцай памянёнага ўладзельца, туж прад камэндантуру, паліцэйскі гэны, забраўшы ровэр, зусім не саромячыся белага дня і множства публікі, „дмухнуў“ „вінаватаму“ такую аплявуху, што той, засланяўшыся, устаяў, але шапку дагнаў за крокаў дзесятак.

Вот як цяпер мэльдуюць ровэры!

# З усіх старон.

### Канец Турцыі.

«Рада чатырох» паслала Турцыі адказ на ноту Фэрсед-пашы з 17-га чэрвеня. У адказе адзначаецца, што Турцыя намагаецца сьцінуць усю віну на камітэт „Еднасьць і Прагрэс“ і просіць адбудаваць цэльнасьць турэцкае дзяржавы. Канфэрэнцыя ня можа пайсьці на тое, каб народ ухіліўся ад адказнасьці, агульнай з урадам, каторага ён ня сьціда́ў; далей нота супярэчывае аргументам на карысьць адбудаваньня цэльнасьці Турцыі. Ня можна паказаваць на мінулую гісторыю турэцкага кіраваньня, а таксама на палажэньне, якое цяпер ёсьць у мусульманскім сьвеце, просячы аб пашкадаваньні Турцыі і ўзвароце ёй тых земляў, каторыя былі ў яе. Не знаходзім,—дадае нота,—ні ў Эўропе, ні ў Азіі, ні ў Афрыцы ніводнага прыклада, каторы сьведчыў-ба аб здольнасьці туркаў кіраваць чужымі расамі. Турцыя усюдых робіць разруху; там, дзе яна была пабядзіцельнаю, яна ня ўмела развіваць таго, што здабыла вайною. Патрэбна таксама адкінуць і матывы рэлігійнага характару.

## Распісаньне паяздоў.

Цяпер на віленскім дарожным вузле ходзяць паязды водле ніжэйсьледуючага расписаньня:

*У кірунку Вільня—Ліда.*

№ 507 выходзіць з Вільні а 6 г. наранціы.
№ 521 „ „ „ „ 4 „ папаўдні.

*У кірунку Ліда—Вільня.*

№ 522 прыход. да Вільні а 10 г. 50 м. наранціы.
№ 508 „ „ „ „ 4 „ — папаўдні.

*У кірунку Вільня—Смаргонь.*

№ 754 прыходзіць да Вільні а 12 г. 8 м. у начы.

*У кірунку Вільня—Н.-Сьвенцяны.*

№ 951 выходзіць з Вільні а 2 г. папаўдні.
№ 952 прыходзе ў Вільню а 6 „ у вечары.

*У кірунку Вільня—Вака.*

№ 601 выходзіць з Вільні а 7 г. наранціы.
№ 605 „ „ „ „ 2 „ папаўдні.
№ 607 „ „ „ „ 7 „ 30 м. увеч.

*У кірунку Вака—Вільня.*

№ 604 прыходзе у Вільню а 11 г. — наранціы.
№ 606 „ „ „ „ 3 „ 10 м. папаўд.
№ 608 „ „ „ „ 3 „ 40 „ увечар.

Ад 17 чэрвеня ходзіць адзін поезд паміж Вільняй і Горадняй цераз Ваку, дзе трэба перасядаць з прычыны папсаваньня мосту.

Поезд гэты адходзіць з Вільні а 7 г. наранціы.



**Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі.** Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.